# Самапомач
# Samapomač

Беларуская кооперацыйна-гаспадарчая часопісь


| Год III. | Вільня, Сакавік 1934 г. | № 3. |
|---|---|---|


Хай злыдні над намі,
скрыгочуць зубамі
Любі сваю ніву, свой
край,
І, колькі ёсьць сілы,
да самай магілы
Ары, барануй,
засявай!.

ЯНКА КУПАЛА.



Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачу.

Джорджа РЭССЭЛЬ
(Ірляндзец).



## ЗЬМЕСТ № 3(20).



## Цэны у Вільні.

*19 III.34 г*

**Збажжовыя.**

| | |
|---|---|
| Мука пшанічная 0000 . . . . | 33.75—34.00 |
| Мука жытняя да 55проц. . . | 24.25—25.00 |
| Мука жытняя да 65 проц. . . | 20.00—21.00 |
| Мука жытняя сітковая . . . . | —17.50 |
| Мука жытняя разовая . . . . | 18.00—18.25 |
| Сэрадэля . . . . . . . . . | 11.91 |
| Льяннае семя . . . . . . . . | 45.18 |

**Мяса і скуры.**

*Паводле натаваньняў з дня 20 III.34 г.*

| | |
|---|---|
| Валовіна, бітая вага, за кілё . . | 0.70— 0.90 |
| Валовіна, перады (кашэрнае) . | 1.20— 1.30 |
| Цяляціна . . . . . . . . . | 0.65— 0.75 |
| Сьвініна . . . . . . . . . | 1.10— 1.23 |
| Скуры быдлячыя сьвежыя за кілё | 1.20— 1.30 |
| Скуры цялячыя, за штуку . . . | 4 - 5 зл. |

**Малочныя, яйкі, мёд**

*паводле нотаваньня з дня 21.III 34 г.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае за кілё ў гурце | 3.30— 3.40 |
| у дэтаталю . . . . | 3.80 |
| Масла сталовае у гурце . . . . | 3,10— 3.20 |
| „ „ у дэталю . . . | 3.60 |
| Масла салёнае у гурце . . . . | 3.10— 3.20 |
| „ „ у дэталю . . . | 3.60 |
| Сыры наваградзкія у гурце за кілё | 2.20 |
| „ „ у дэталю . . | 2.60 |
| Яйкі ў гурце за капу. . . . . | 3.90— 5.40 |
| у дэталю за штуку . . . | 0.07— 0.10 |
| Мёд у гурце за кілё . . . . | 2.60 |
| у дэталю . . . . . . . . | 3.00 |

**Грошы.**

| | |
|---|---|
| За літоўскі літ . . . . . . . | 0.88 зл. |
| За латыскі лат . . . . . . . . | 1.33 „ |
| За савецкі чырвонец . . . . . . | 1 00 „ |
| За рубель золата у | |
| 5-цірублёўках . . . . . . . . | 4.65 „ |
| 10-цірублёўках . . . . . . . . | 4.68 „ |

# „Самапомач”

Часопісь выходзіць раз у месяц.

**Падпісная плата аднаго экзэмпляра каштуе:**

На год . . . . . . . 3.— зл.
На паўгода . . . . . 1.75 „
На 3 месяцы . . . . . 1.20 „

Заграніцу — ўдвая даражэй.
Цана асобнага нумару 40 грашоў.
Цана абвестак паводле ўмовы.

Коопэратывы, гурткі і прыватныя асобы, што выпісваюць на адзін адрэс найменш 10 экзэмпляраў „Самапомачы“ (камплект), плацяць за экзэмпляр толькі **1.20** зл. за 10 экз. 12 зл. Пакуль хопіць запас, да кожнага камплекту (дзесятка) будзе бясплатна далучаны адзін **Беларускі Адрыўны Календар на 1934 г.**, а за даплатай 1 зл. і гадавік „Самапомачы“ за 1933 г

Грошы на «Самапомач» пасылаць на чэкавае конто інж. Клімовіча у П.К О. Nr. 180.485, а ўсякія пісьмы — на адрэс:

Redakcyja „Samapomač“, Vilnia, Połackaja vul. 4 - 10
(Wilno, Połocka 4—10).

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 9-ай да 11-ай гадз. дня.

Samapomač — BIEŁARUSKAJA KOOPERATYŬNA-HASPADARČAJA ČASOPIŚ.

Adres: VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 4—10.

Самапомач

| Hod III. | Vilnia, Sakavik 1934 h. | Nr. 3 (20). |
| --- | --- | --- |

# *Мала цешыцца — трэба працаваць.*

Думка паступовага пашырэньня нашае часопісі, аб чым пісалі мы на гэтым месцы ў апошнім нумары „Самапомачы“, знайшла ў кругох чытачоў радаснае прыняцьце. Будзем аднак шчырымі і скажам проста, што радасьць гэта нас тымчасам „ані парыць ані зябіць:“ для творчае працы, апрача радасьці патрэбна йшчэ і зразуменьне.

Алѐ, трэба зразумець, што пашырэньне часопісі само сабой стацца ня можа. Патрэбна да гэтага йшчэ большая чым дагэтуль самкнутасьць самых чытачоў, для каторых часопісь празначана, бо граніцаў ахвярнасьці ў выдаўцоў часопісі і бязінтэрасоўнасьці ў ейных супрацоўнікаў далей пасунуць ужо ніякім чынам ня можна. Суму грошаў, патрэбных дзеля праектаванага павялічэньня часопісі мусяць даць самі **чытачы;** не дарма, але ў форме падпіскі на часопісь, асабліва **ў форме падпіскі на дзесяткавыя камплеты** „Самапомачы„: адзін экзэмпляр 12-цібачыннай часопісі каштуе тады толькі **10 грашоў.** На гэткі дробны і разам з тым гэтак карысны месячны выдатак без найменшага намыслу можа пазволіць сабе і найбяднейшы наш гаспадар.

Трэба толькі кожнаму нашаму гаспадару, які ўмее чытаць, **даць магчымасьць быць учасьнікам гэтага камплету,** ці йнакш кажачы — сабраць у кожнай вёсцы ня менш 10-цёх людзей ахвотных мець часопісь. Грошы тут рэч другарадная — патрэбна толькі ахвота і добрая воля. Спадзяёмся знайсьці іх у вясковай нашай інтэлігенцыі і самога передавога сялянства. Дык да іх перадусім і зьвяртаемся:

**ГРАМАДЗЯНЕ!** Прычына галіты нашай вёскі ня толькі ў нястачы сродкаў матэрыяльных, але яшчэ больш у адсталасьці способаў гаспадараньня. Навучыцца гэтых способаў можна толькі ў школах — што не для ўсіх магчыма — або з агульна даступнай гаспадарчай часопісі. Гэткай часопісяй ёсьць месячнік „Самапомач,“ які да таго ўжо

**ад 1-га красавіка с. г. павялічваецца у паўтара раза (12 бачын),**
**а ад 1-га кастрычніка — магчыма і — ў два разы (16 бачын) проці сягоньняшняга свайго выгляду.**

На недаступнасьць „Самапомачы“ — варункі падпіскі глядзі побач на вокладцы — ніхто вымаўляцца ня можа. Дык хай кожны станецца падпішчыкам „Самапомачы:“ чым больш будзе падпішчыкаў, тым хутчэй зможам нашу часопісь павялічыць да такіх разьмераў, каб кожны знашоў у ёй усё сабе патрэбнае. Хай-жа гэта станецца найхутчэй!

**Найперш мусіць ісьці гаспадарчая асьвета,** а дабрабыт за ёй прыйдзе сам. **Ніколі наадварот!** Зразуменьне гэтай праўды хай будзе экзамінам нашага земляробства і хай гэты экзамін пакажа, што вёска наша ўжо грамадзка дасьпявае. Не забудзьмося ўрэшце тэй праўды, што „які пан — такі і крам:“ якія чытачы — такая і іхняя часопісь.

Ад сягоньня лёс „Самапомачы“ залежа ад ейных чытачоў!

*Рэдакцыя і Адміністрацыя „САМАПОМАЧЫ.“*

*Усім, хто дагэтуль ужо прыслалі асабістую падпіску (3 зл.) на „Самапомач,“ а хацелі-б перайсьці на падпіску ў камплеце, — прысланыя грошы могуць быць пераведзены на рахунак камплету: трэба дзеля гэтага толькі паведаміць рэдакцыю і забавязацца даплаціць рэшту, г. зн. 9 зал. не пазьней 30 чэрвеня с. г.*

# „Nia kraści i nie bajacca!“

Nia susim zvyčajnyja hetyja słovy praf. T. G. Masaryka — prezydenta Čechasłavaččyny, kidajem my tut da ahulnaha razvažańnia nie dziela taho, kab kaho-niebudź z našych pavažanych čytačoŭ i kooperatyŭna-haspadarčych pracaŭnikoŭ padazravać u kradziežy ci ŭ niečym padobnym, a robim heta, kab źviarnuć uvahu, što **nia možna ŭ XX-tym vieku pasłuhoŭvacca sposabami pracy ŭžyvanymi 200—300 hadoŭ tamu nazad...**

Kankretna: žyćciom razbudžanaje ŭ šyrokich kruhoch nasielnictva Zach. Biełarusi zacikaŭleńnie da kooperacyi sarhanizavała tamsiam kooperatyŭnyja placoŭki. Los hetych placovak — kooperatyvaŭ usiakaha vidu — ścisła źviazany z ułaścivaściami tych ludziej, katoryja imi pačali kiravać. I tak, jość placoŭki, što da siahońnia nie zdradžajuć strachu prad žyćciom i dobra raźvivajucca, a jość uznoŭ i takija, što choć i pačali „за здравіе“, to kančajuć adnak „за упокой“. Kali pryhledzicca bližej da hetych apošnich, dyk nia možna abaranicca ad uražańnia, što ludzi pracujučyja ŭ ich, advažyŭšysia časam pryznacca da svajoj biełaruskaści (ci nie patrapiŭšy jaje schavać — pryp. drukara), za nadta rachavali na svaje „znajomaści“, „upływy“ i „źviazi“, čakajučy musić ad polskich sajuzaŭ, arhanizacyjaŭ i administracyjnych uładaŭ, kab tyja pahładzili ich za heta pa hałoŭcy. *Sancta simplicitas!..**) Bo i jak inakš vytłumačyć toj fakt, što adna-druhaja pieraškoda i ŭsio raptam chistajecca i valicca.

Šlach usiakaj biełaruskaj raboty ŭ sučasnych varunkach nia ŭścieleny kvietkami; taksama i šlach raboty kooperatyŭna-haspadarčaj. Pieraškody ŭ sučasnych varunkach isnavańnia biełaruskaha Narodu ŭ Zach. Biełarusi jość i buduć. Ale-ž ich treba pieramahać i łamać usimi dastupnymi sposabami, a nie ad ich uciakać! Bo i chto-ž vyjhraŭ bitvu ŭciakajučy z placu boju? Dzie i kali?

A ŭ nas chočać tak rabić, i to nie adnojčy i nie ŭ adnym miescy. Akolnymi šlachami i praz pastarońnich ludziej vypadkova dachodziać tolki čutki, što tam i tam była takaja i takaja napr. pieraškoda ŭ pracy. Ale „barani Boža, kab ab hetym daviedaŭsia kulturny śviet sposabam ahulna pryniatym — praz biełaruskuju presu! Nie! Lepš u cichaści i pakory prahłynuć, a časam i ŭdavicca zadanaj pilulaj, čym rašycca na krok hodny čałavieka baraćbita i pryniać česny boj“. — U rezultacie hetkaha maŭčańnia nijakaja praca nia robicca, hoład pašyrajecca, a na apraŭdańnie i vytłumačeńnie niama nidzie paludzku zarejestravanych faktaŭ. Ci-ž možna vydumać jašče lepšuju sytuacyju dla roznych „pryjacielaŭ“ Biełarusoŭ tut, u Kraju i na hruncie mižnarodnym?! Mohuć jany i dalej biaskarna ćvierdzić, što nas niama, a kali dzie-štoś i jość, dyk nam dobra žyviecca, bo ab našych biedach nidzie nia čuvacca. Ci-ž nia hetak? A vinavata hetamu časta karyhodnaja biazdarnaść našaje-ž intelihiencyi! Tak!

Heta adno.

Druhim, nia mienš važnym i taksama ŭ

*) śviataja prastadušnaść.

---

**Charles Gide.**

# Kooperacyja ci revalucyja?

Prafesar Charles Gide (čytaj — šarl žid), francuz, žyŭ ad 29.VI.1847 da 13.III.1932 h. i ličycca da siahońnia adnym z najbolš praniklivych teoretykaŭ kooperacyi, pieradusim rabotnicka-spažyvieckaj. Stajaŭ jon, možna skazać, pry kałyscy francuskaj kooperacyi i staranna apiakavaŭsia joj biazupynna, a asabliva, kali dla kooperacyi hrazili jakija-niebudź niebiaśpieki. U adnu z takich chvilinaŭ niebiaśpieki (u 1888 h.) praf. Gide mieŭ svaju słaŭnuju lekcyju na temu „Budučynia kooperacyi“, u katoraj miž inšym snavaŭ dumku ab tym, što pryniasie rabotnickaj klasie papravu žyćcia: Kooperacyja ci revalucyja. Dumki niabožčyka Gide'a chaj pramoviać i da biełaruskaha čytača ŭ 16-tyja ŭhodki abvieščańnia Niezaležnaści Biełarusi (25.III.1918—25.III.1934) — red

Pryčynaj, katoraja parvała brackaje złučvo pamiž kooperacyjaj i socyjalizmam, była dahadka francuskich socyjalistaŭ, što im udałosia zrabić adkryćcio: što dziela ŭniezaležnieńnia rabotnickaj klasy znajšli sposab bolš skutkoŭny i peŭny ad kooperacyi, a pajmienna — socyjalnuju revalucyju. „Narod nia vieryć užo ŭ kooperacyju prosta dziela taho, što vieryć u revalucyju.“

Nie chaču tut havaryć ab zakonnaści revalucyjnaj dumki... Nia mieŭ-by achvoty piarečyć, što hety krajni sposab nia moh-by kališ być nakinienym... Chacieŭ-by tolki vam dakazać, što navat u vypadku nieabchodnaści hetaj revalucyi, kooperacyja jość adzinym pryhatavaŭčym srodkam, jaki daŭ-by rabotnickaj klasie mahčymaść sabrać płady, katorych čakaje.

Dapuścim, kali chočacie, što sapraŭdy socyjalnaja revalucyja zaŭtra zbudziecca. Minuŭ kryvavy dzień i revalucyja pieramahła; narod vyjhraŭ na ciełaj linii. Miaščanstva, jak klasa, vybita, pryvatnaja ŭłasnaść skasavana; ziamla, padziemnyja bahactvy, fabryki, mašyny, handlovyja damy, čyhunki, banki i ichnaja kasavaja hatoŭka—usio ŭ rukach narodu. — Bačycie, što ŭsio maluju vam z boku dobraha. Pałažylisia vy ŭ miaščanskija paścieli i załatyja sny vas zaspaili... A što paśla? Hetaje dabro, fabryki, čyhunki, banki, handlovyja damy treba puścić u chod. Treba-ž uznoŭ puścić u ruch heny vahromnisty narodna-haspadarčy arhanizm vytvorčaści, kruhavarotu i pa-

paśledztvach svaich vielmi niebiaśpiečnym abjavam u našych pamiesnych haspadarčych pracaŭnikoŭ jość niezrazumieły strach prad „palitykaj" i prad źviaziami z centrami biełaruskaj arhanizavanaj raboty. Niama sumnivu, što zdarajucca na vioscy vypadki roznaha strašańnia, heta praŭda. Ale praŭda i toje, što strašać taho, chto baicca! Palityka dla palityki heta adna reč, ale i toje, što biełarusy naahuł žyvuć pad soncam -- heta taksama palityka! Apalityčnaść nia jość indyferentnaściu da palityčnaha pałažeńnia i chto ŭ imia hetkaj „apalityčnaści" chacieŭ by schavacca ŭ cień, toj jość zvyčajnym niahodnikam. Nie pamoža tut ničoha i prytvornaje „purytanstva" tych, što admaŭlajučysia „abstavinami" chacieli-b schavacca pad fihavy listok da „lepšych časoŭ", kab tady adrazu vypłyć „čyścieńkimi" (ad hetaha i „purytanstva") na „šyrokija vody". Kandydaty hetkaha „purytanstva" musili-b viedać, što volna im za siabie ŭniaruchomicca i zamierznuć siarod žyćcia, ale samo žyćcio ad hetaha ani na chvilinu astanavicca nia moža. Žyćcio heta biespraryŭnaść i chto jaho razryvaje jość škodnym samahubcam.

Padsumoŭvajučy ŭsio skazanaje treba pryšci da vysnaŭku, što ŭ XX-tym vieku treba pracavać i zmahacca tolki novačasnymi sposabami. Nia treba dziela hetaha „narušać publičny paradak", ale treba ŭmieć abaranić isnujučuju litaru zakonu, ci jnakš kažučy: **ćviorda i rašuča damahacca taho, što zakonam dazvolena.** Karać za heta nichto nia maje prava. A kali niejdzie zdaracca pieraškody suproć hetkaha vyraznaha damahańnia prava, dyk nia treba ich trymać schavanymi i pieradavać tolki „na vucha", ale treba:

1. zažadać umotyvavanaha adkazu na piśmie,
2. adkaz hety vykarystać dziela złažeńnia ŭ pradpisanym časie i miescy skarhi (zažaleńnia),
3. dziela rejestracyi pracy i pieraškodaŭ, a taksama dziela fachovaj parady zaraz-ža treba kožnaje takoje zdareńnie, razam z kopijaj dakumentaŭ padavać da ahulnaha viedama praz biełaruskuju presu. — Dla spravaŭ kooperat.-haspadarčych słužyć na heta „Samapomač".

Dyk nia trymajma žalaŭ svaich zamknionymi na siem zamkoŭ, a vykarystoŭvajma ich jak dobruju zbroju ŭ damahańni należnych nam pravoŭ!

*A. K.*

---

*Новую коопэратыву ня рушыце з месяца, а ў заснаванай ўсьцяж будзеце працаваць з стратамі, калі ў Вас ня будзе людзей знаючых ідэовыя асновы коопэрацыі, правільнае кнігаводзтва, таваразнаўства, арганізацыю і тэхніку прадажы, коопэратыўнае права і гандлёвую карэспандэнцыю — Усяго гэтага найлягчэй, бо нікуды ня выяжджаючы, можаце навучыцца зараз-жа запісаўшыся на Завочны Курс Коопэрацыі пры рэдакцыі „Самапомачы". Навучаньне на Курсе бясплатнае. Пісьмы адрэсуйце ў рэд. „Самапомачы": Вільня, Полацкая 4—10.*

---

dziełu dabra, katory štodzienna ŭtrymoŭvaje haspadarčaje žyćcio kraju i katory, kali-b astanaviŭsia na adziny tolki dzień, dyk cały socyjalny aparat pryvioŭ-by da śmierci, taksama jak zatrymańnie biehu kryvi pryviało-b da biezadkładnaha zaniku žyćcia.

I nie adhavarvajciesia, što ŭsio heta budzie dzieicca pamału, što budziecie mieć dosyć času dy što ŭsich hetych rečaŭ navučyciesia. — Budzie heta moža ŭ dni buntu i na barykadach, — budzie tady čas vyvučycca hetych spakojnych zaniatkaŭ? Nie, napeŭna nie! Vymahańni socyjalnaha žyćcia nie pazvolać vam ani dnia, ani adzinaj minuty! U adzin mih budziecie zmušany bracca za haspadarčaje kiraŭnictva i ŭziać na siabie za heta adkaznaść, bo ŭ praciŭnym vypadku hramadzianstva zahinie — ci jnakš kažačy, nie zahinie, ale ŭ śmiarotnych sudarhach adkinie novy hramadzki ład, katory jaho dušyć, a chopicca za žyćcio papiaredniaje. Pamiatajcie, što chaj zachopić uładu jakaja-niebudź partyja, kali jana akažycca niazdolnaj zapeŭnić dla kraju biazupynny bieh haspadarčaha žyćcia, nia ŭtrymajecca, zaniknie! Revalucyjnyja socyjalisty mohuć pieramahčy ŭ sta bajoch, rabotnickija hramady mohuć nasić čyrvony ściah pieramohi z adnaho hałoŭnaha miesta ŭ druhoje, kali adnak nia buduć zdolnymi ŭ mih voka zamianić ułaśnikaŭ, kapitalistaŭ, pradpryjemcaŭ, kupcoŭ— ludźmi spasiarod siabie samych, usio raźminiecca z metaj i ŭsio treba budzie pačynać ad pačatku! Nie kažu hetak tolki ja, ale ŭžo Hercen, baćka anarchizmu, napisaŭ: „I kali b porach (dynamitu jšče nia znaŭ) ŭzarvaŭ (vykinuŭ) siahońnia hety stary śviet u pavietra, pabačyli-b, jak jon uznoŭ rodzicca z popiełu, nažal! — uznoŭ miaščacki!"

Dyk što ž! Pačuvajeciesia zdolnymi hetak z dnia na dzień zamianić klasu, katoraja až da siahońnia kiravała haspadarčym žyćciom?— Kali adkažacie „tak", pazvolu sabie skazać, što tak zdolnyja hałovy musili-b być skramniejšymi! Mahčyma, što i patrapili b vy pradukavać bahactva tak, jak pracadaŭcy, bo-ž heta bahactva vy sami vyrablajecie. Ale padumajcie, što pradukcyja siahońnia jość tolki druharadnym składnikam pradpryjemstva: handlovaja starana jość najvažniejšaj i ad jaje zaleža ŭdača abo hibiel. I hetu handlovuju viedu, haspadarańnie kapitałam, u rachunkach katoraha dosyć pamyłki ŭ niekalkich centymach,

## Uspamažecie Kooperatyŭny Fond!

Hod tamu nazad zapačatkavany Kooperatyŭny Fond pry red. „Samapomačy“ daŭ mahčymaść z pačatkam 1934 h. uruchomić hetak patrebny Zavočny Kurs Kooperacyi, z jakoha pilna karystajuć kala 2-ch dziesiatkoŭ kandydataŭ na kooperatyŭnych pracaŭnikoŭ. Kurs daviedzieny ŭžo da pałovy i ŭsio pramaŭlaje za tym, kab daviaści jaho da kanca. Na vialiki žal adnak słabyja ad pačatku našy finansavyja zapasy z časam vyčerpyvajucca da dna. Redakcyja „Samapomačy“, kab zapeŭnić učašnikam Kursu biesprapyŭnaść navučańnia, i nia majučy ułasnych na heta srodkaŭ, rašyłasia na darahuju pryvatnuju pazyčku, u mocnaj nadziei, što apłaty ad novaprybyvajučych z časam kursantaŭ daduć mahčymaść hetu pazyčku spłacić. Žyćcio našy spadziavańni apraŭdyvaje, bo novyja kursanty ŭściaž napłyvajuć.

Dziela taho adnak, što darahi pryvatny kredyt nas vielmi hniacie, adklikajemsia da śviedamaha biełaruskaha hramadzianstva z prośbaj-zaklikam uspamahčy Kooperatyŭny Fond dalšymi składkami, jakija pa ŭpłyvie karotkaha času mohuć być užo viernieny.

Hramadzianie, pamažecie dobraj spravie, bo ŭzhadavańnie maładych kadraŭ biełaruskich kooperatyŭnych pracaŭnikoŭ heta siahońnia najpeŭniejšaja moža padstava našaha ŭsienarodnaha adradžeńnia!

Składki prosim słać na konto P. K. O. Nr. 180.485. — inž. A. Klimoviča. Vilnia.

## Kooperatyŭnyja naviny.

**Novaja navukova-daśledčaja placoŭka biełaruskaje haspadarki.** Schod Rady Bieł. Instytutu Haspadarki i Kultury dnia 18 h. m. ŭstanaviŭ dziela navukova-daśledčych metaŭ asobnuju Sekcyju Ekanomiki i Statystyki. Sekretarom Sekcyi vybrany inž Ad. Klimovič. Asobaŭ žadajučych i mohučych pracavać u hetaj halinie prosiać zapisvacca ŭ kancelaryi Instytutu (Zavalnaja 1-1), abo ŭ redakcyi „Samapomačy“ (Połackaja 4-10).

**Adnaŭleńnie „Pčały.“** U niadzielu 18 h. m. adbyŭsia ahulny Schod siabroŭ biełaruskaha kooperatyŭnaha T-va „Pčała,“ na jakim vybrany novyja ŭłady t-va i namiečany plan pracy na budučyniu. Schod miž inšym pastanaviŭ źmianić statut t-va u tym sensie, kab jaro mahło zakładać na pravincyi svaje addziely i viaści źbirańnie lekarskich ziołak. Abviestki sudovyja pastanoŭlena pieranieści ŭ bieł. kooper. časopiś „Samapomač.“ —Kantora t-va mieścicca u pamieškańni: Vilnia, Karaleŭskaja 3—8.

**Novela (źmiena) polskaha kooperatyŭnaha zakonu,** ab katoraj my ŭžo davoli pisali, pryniata užo Sojmam i Senatam. U Sojmie heta sprava razhladałasia 24 lutaha. Kudy ciapier buduć staraca paviarnuć kooperacyju pry novych paradkach-dahadacca nia trudna. Pieramoža adnak toj, chto vykaža bolš śviedamaści i zdatnaści. Heta peŭnaje!

**Novaja ukrainskaja kniha ab kooperacyi.** Revizyjny Sajuz Ukrainskich Kooperatyvaŭ — u Lvovie tolki što vypuściŭ na knižny rynak vielmi cennuju knihu „Ideolohija Kooperacyi,“ katoruju z-za niastačy tymčasam adpaviednaj literatury biełaruskaj, ščyra radzim paznać i našym kooperatyŭnym pracaŭnikom biełaruskim. Kniha na 108 bačynach vialikaj vaśmiorki padaje dasłoŭnyja dumki ab kooperacyi takich jejnych ideolohaŭ, jak: Owen, Fourier, Gide. Totomianz, Webb, Poisson, Muller, Staudinger, Tuhan-Baranoŭski, Worbas. Holyake i inš. — Knižka kaštuje tolki 2 zł. i dastać jaje možna u RSUK: Lvoŭ, Mickieviča 12.

---

kab ad hetaha paŭstali roźnicy ŭ niekalkisot tysiač frankaŭ,*) asablivaje heta ŭmieńnie, što miarkuje nad tym, jak znajści kupcoŭ až na kancy śvietu i znajści ich tam, dzie dahetul ich nia było, praniuchać kaprysy mody, adhadać, jakaja budzie moda zaŭtra i zatrymać biazupynnyja jejnyja źmieny napierad užo zroblenymi źmienami formy vyrabaŭ, usiu henu handlovuju stratehiju, katoraja taksama patrabuje navuki jak i stratehija vajennaja, katoraja jak i jana maje svaich kapitanaŭ i hieneraŭ... — ci vy hetu mastackuju viedu znajecie? A patrapić rabotnickaja klasa nazaŭtra pa revalucyi paddacca hetaj dyscyplinie i hetamu paradku ŭ pracy, katory jość kaniešnym varunkam kožnaha masavaha pradpryjemstva?

I nie kažecie mnie, što hetaha lohka navučyciesia, bo intelihiencyja vaša roŭnaja intelihiencyi miaščanskaj. Vieru ŭ heta, bo ja nia z tych, katoryja dumajuć, što kiraŭnictva pracadaŭcy vymahaje bolšych zasłuhaŭ; ale jašče adnojčy pytaju, dzie i jak hetaha navučyciesia? Nie navučyciesia, kali budziecie pracavać jak padzionnyja rabotniki, abo i kali nastanie biaspłatnaje i abaviazkavaje navučańnie ci navučańnie poŭnaje, vymahanaje niekatorymi prahramami, ad katoraha čakajuć čaradziejnaj niejkaj mocy. Pazvolcie mnie, prafesaru, katory zdaŭ užo nia mała ekzaminaŭ u svaim žyćci, sumnivacca ŭ tym, što datyča navučańnia na školnaj łaŭcy z haliny viedy praktyčnaj. Jość adzin tolki sposab dla rabotnickaj klasy navučycca jak abchodzicca z kapitałami, jak vyćvičycca ŭ handlovaj praktycy, u mechaniźmie masavych pradpryjemstvaŭ, heta znača navučycca haspadaryć na svoj sobski rachunak — što stacca moža tolki pry sarhanizavańni ŭ kooperatyŭnych arhanizacyjach. Kooperatyvy spažyvieckija, kredytovyja ci vytvorčyja daduć rabotnickaj klasie viedamaści, katorych u pažadany dzień budzie jana patrabavać.

Dziela taho tyja, chto vam ćvierdziać, što sučasny haspadarčy ład možna źmianić adnym kivam ruki, ašukivajuć samych siabie abo vas. Kali havaryć ab revalucyi palityčnaj, dyk mahčyma: troch dzion moža chapić, kab skinuć karala, bo niama ničoha krachčejšaha jak tron! Ale kali havaryć ab zamienie całaha haspadarčaha ładu ładam novym, patrebna dla he-

*) Frank — nazoŭ adzinki francuskich hrošaŭ, tak jak złoty ŭ Polščy. Siahońnia za frank płaciać kala 35 hrašoŭ.

# Сельская гаспадарка.

## Аб каровах да працы.

Прачытаўшы ў № 1 с. г. „Самапомачы" артыкул *А. К.* „*Конь ці карова?*", хачу падзяліцца з чытачамі тымі ўражаньнямі, якія прышлося мне вынесьці з сялянскіх гаспадарак ў Чэхаславаччыне. Перадусім не магу не зазначыць, што тутака пры добра абдуманым вядзеньні гаспадарак сяляне і на дробных гаспадарках жывуць у шмат разоў лепш, чым у нашых, беларускіх краёх. Зямля ня ўсюды добрая, у многіх мясцох ня лепшая чым на Беларусі, але кожная пядзя яе выкарыстоўваецца. Каменьняў і гліны ёсьць усюды даволі, дык мала відаць дзеравяных будынкаў: хаты, хлявы і гумны мураваныя, крытыя бляхай. Хаты будуюцца найбольш двухпаверхныя і маюць па 8 - 10 асобных памяшчэньняў. Апрача пакою, працоўнай хаты, кухні з плітой і печаю для пячэньня хлеба ёсьць там склады для збожжа ці іншых тавараў, а пад хатай — скляпы для бульбы, варыва і г. д. Усё пад аднэй страхой. Увесь край — на палавіну землявробскі, а на палавіну прамысловы. У фабрыках вырабляюцца ўсякія гаспадарчыя прылады і машыны, у тым ліку і трактары, аднак трактары ў сялянскіх гаспадарках амаль што ня ўжываюцца. Найбольш ужываецца жывая сіла, асабліва **карова.** Вялікі і багаты лясны край **Шумава***) працуе толькі каровамі. Каровы (у запрэжцы па дзьве) цягнуць плуг, барану, малатарню, сячкарню, возяць збожжа, сена, дровы з лесу і ўсё, што трэба. Пашы няма, дык каровы зіму і лета кормяцца у хлявох сечкаю, мяшанаю з мукою, вотрубамі і даюць — у час цяжкой працы — звычайна па 6 літраў малака ў дзень кожная. Улетку, калі кормяцца зялёнаю сечкаю, удой павялічваецца да 8 літраў ад каровы ў дзень. Сяляне кажуць, што працуючая карова, калі яна добра кормлена, дае больш — клустага — малака, чым тая, што не працуе.

Зажытачны гаспадар мае па 8—10 кароў, ня лічачы падцёлкаў. Быдла добра даглядаецца і часта падсьцілаецца, дык гною бывае шмат. Кожныя тры дні гной выкідаецца з хлявоў і прэе ў асобных гнаішчах перад хлявом. Частка гною ідзе на поле, а частка, перапробленая ў кампост, на сенажаці. Штучных гнаёў у горах мала хто ўжывае. Лішкі малака збываюцца ў коопэратывы.

Харчуюцца сяляне вельмі добра. Чорнага хлеба ніхто ня знае. Ядуць хлеб белы з чыстай жытняй мукі. Калі адзін раз беларускі студэнт прывёз свой чорны хлеб, сьпечаны з прымешкаю бульбы, дык людзі дзівіліся — як можна такі хлеб есьці. Апрача

*) быццам наша Палесьсе, толькі гарыстае—рэд.

taha doŭhaja pryhatavaŭčaja praca, padobnaja da tej pavolnaj i cichoj pracy... jakaja ŭ hłybiniach Cichoha akijanu niabačnym i biazupynnym trudom tvoryć karałavyja vastravy ci padymaje na dnie bahna tajomnuju budovu kryštałaŭ... zaŭsiady z varunkam, kab cieča nie zamuciłasia!

Uspaminaju pry hetaj akazii hutarku, jakuju mieŭ ja adnojčy z adnym pieradavym dziejačom socyjalistyčnaj partyi. Havaryŭ mnie ab patrebie revalucyi; ja jamu skazaŭ: „Vierycie ŭ evolucyju (sapraŭdy ŭ jaje vieryŭ), vierycie, znača, što hramadzianstva moža pieratvarycca tolki dziejnaściu pryrodnych zakonaŭ i što hetyja pieramieny zaŭsiody pavolnyja, zmysłami blizu niezaŭvažnyja. Kolki stahodździaŭ patrebna było na toje, kab z rabstva vyvinułasia niavolnictva, a z niavolnictva — najemnictva! Jak možacie tady dumać, kab socyjalnaja revalucyja stałasia za adzin dzień?"

Adkazaŭ mnie: „Evolucyja susim nie piareča revalucyi; sama pryroda pierakonvaje nas ab hetym prykładami. Uvažajcie na kuranio ŭ jajku: raźvivajecca pavodle pryrodnych zakonaŭ, katoryja kirujuć raźvićciom kožnaj žyvoj istoty, ale pryjdzie dzień, kali musić dastacca z jajka, udarami dziubki raźbić łupinu jajka, jakaja stałasia dla jaho vastroham. Voś jahonaja revalucyja! Taksama i rabotnickaja klasa budzie musić u dzień, kali zachoča tryvała ŭniezaležnicca i vystupić na sonječnaje śviatło, nasillem raźbić henu hrubuju karu zakonaŭ, upiaredžańniaŭ i manapolaŭ, katoruju čas kruhom jaje vytvaryŭ i trymaje jaje ŭ praŭdzivym vastrozie; heta budzie naša revalucyja i budzie jana susim u zhodzie z zakonami pryrodnymi".

Heta nia byŭ błahi adkaz. Pazvolcie mnie skazać vam, što ja jamu na heta adkazaŭ. Sapraŭdy, kuranio, kab vyklunucca, musić zrabić henu, jak jaje nazyvaje, małuju revalucyju; kuranio adnak starajecca, kab nie raźbić jaječnaj łupiny chutčej, jak u dzień, kali ŭžo ŭsiocieła razaŭjecca, kali ŭžo apierycca, budzie mieć dziubku i kipci; bačycie taksama, jak tolki što vyšaŭšaje z jajka kuranio pačynaje dziubać jak baćka i matka! Kali-b raźbiła łupinu jajka niekalki dzion raniej, pamiorła-b. Tut jakraz naprašvajecca pytańnie, ci rabotnickaja klasa ŭ hetu chvilinu całkom pryhatavana da novaha žyćcia i žyćciovych varunkaŭ, da katorych imkniecca? — Zrobić dobra, kali nie razab'jeć łupinu pierš, pokul nie apierycca, nie ŭzdabudziecca na dziubu i kipci — a ab usim hetym pastarajecca kooperacyja, dajučy rabotnickaj klasie mašyny da vytvorčaści i navučajučy jaje z imi abchadzicca.

малочных прадуктаў і яец, мяса таксама ёсьць пад дастаткам. Найбольш кормяць і забіваюць для сябе парасят (поўгадовых падсьвінакаў). Старых сьвіней кормяць на сала для прадажы.

Пасты і сьвяткі тут ня ўсюды захоўваюцца. У рабочы час, асабліва калі пагражае дождж, людзі працуюць на палях і сенажацях, пераважна папалудні.

Гарэлка тут ня ў модзе, але кожны селянін мае грош ня толькі на патрэбы гаспадаркі, але і на піва.

У гарачых краёх Шумаўскіх Альпаў і на Белых Карпатах у Славакіі сяляне жывуць бедна, вёсак няма. Аддзельныя хутары сялян раскіданы па схілах гор, па лясох. Будынкі як ластаўчыныя гнёзды прылеплены да скалы, а каля будынкаў — малая латка поля. Здараецца, што ў часе вялікіх навальніцаў, якія там бываюць часта, зямля размокне, адарвецца ад скалы і ўся гаспадарка горняка, разам з полем, зьедзе ў даліну. Так было на Вышкоўцы ў Белых Карпатах, чаго ніжэйпадпісаны аўтор сам быў сьведкаю. Сьцены мураванай хаты трохі патрэскаліся, сям'і гаспадара нічога ня сталася, а дрэвы ў садзе прадаўжалі расьці ўнізе таксама, як перад тым на гары.

Гэтыя горнякі складаюць найбольшы працэнт рабочых на фабрыках у горадзе, а тыя, што астаюцца дома, зарабляюць улетку зьбіраньнем грыбоў і ягад, асабліва малін, якіх там пропасьць. Зьбіраньне лясных пладоў нікому не забараняецца, як у лясох скарбовых, так і ў прыватных.

Кароў горнякі дзяржаць па аднэй, па дзьве, на якіх таксам езьдзяць і апрацоўваюць зямлю. Каровы зганяюцца ў стады і пасуцца. Кожная карова мае званок, ці бразгушку, дык водгук іх разлягаецца далёка.

Прага 4.II.1934.

*М. Вершынін.*

# У пару вываду куранят.

Сакавік і красавік гэта месяцы, у якія кожная рупная гаспадыня стараецца пасадзіць на яйкі адну-другую курыцу, каб выгадаваць сабе раньнія куранята. І гэта вельмі добра, бо толькі раньняя курыца здолее ў поўнай меры разьвіцца і рана пачне нясьціся. Ды, нажаль, прыглядаючыся да „курынай гаспадаркі“ нашых вёсак, ня бачым прыкладаў, каб гаспадыні абдумана выбіралі на племя курэй і пятухоў ды рабілі адпаведны выбар яек. А якраз ад гэтага залежыць аплатнасьць гадоўлі курэй.

Зразумела, што 'аплаціцца гадаваць толькі такую курыцу, якая: 1) нясе найбольш яек, 2) дае яйкі вялікія, цэнныя ў прадажы, 3) нясецца ў зімовую пару, калі яйкі найдаражэйшыя. Калі маем такую курыцу, то трэба старанна адбіраць ад яе яйкі на вывад, бо ведаем, што дадатнія свомасьці (уласьцівасьці) маткі перададуцца нашчадкам. Ня трэба толькі забывацца, што пятух няведамага паходжаньня, або пасьля ненясушчай курыцы можа папсаваць ўсю работу, бо ягоныя свомасьці ў большай яшчэ меры чым курыныя перадаюцца куранятам.

Далей, выбіраючы яйкі на вывад, трэба помніць, што моцныя, здаровыя куранять выйдуць толькі з яек зьнесеных 2-хгадовай курыцай, ды такіх, якія ляжаць ня больш 2-х тыдняў.

Яйкі на вывад перахоўваем у халодным, ня лішне сухім месцы. Квактуху садзім ў спакойным месцы, дзе ўжо ніхто ня будзе яе трывожыць. Гняздо, дзе сядзіць квактуха, найпрактычней зрабіць у старой бочцы, падкладаючы пад салому пласт зямлі або дзёрну.

Куранят па добрых бацькох, рана вясной выведзяныя і адпаведна гадаваныя, (аб чым скажам ў свой час) дадуць нам гадаўляны матэр'ял, з якога дарогай далейшага падбору можам дайсьці да высокаякаснай ўласнай краёвай пароды курэй.

Бязумоўна, гэта дарога вельмі даўгая, вымагаючая цярплівасьці, стараннасьці і пэўнай веды, і дзеля гэтага не для кожнага даступная.

Шмат прасьцей замяніць нашы маленькія ў большасьці вясковыя куры, якія нясуць адпаведна да сваей вялічыні маленькія яйкі, такімі ўжо ўсталенымі і выпрабаванымі пародамі, якія найбольш адпавядаюць нашым кліматычным і гаспадарчым варункам. Найбольш адпорнымі на атмосфэрычныя зьмены зьяўляюцца агульнаўжытковыя, (г. зн. і на мяса і на яйкі) цяжкія амэрыканскія расы: Віяндоты, Плімут-Рокі і Род-Айлэнды (Rode-Island) ці йнакш — Кармазыны. Разгледзім коратка ўласьцівасьці кожнай з гэтых расаў.

**Віяндоты** бываюць белыя і чорныя; першыя больш распаўсюджаныя. Нясуцца добра, але яйкі невялікія і сьветлыя, што ад'емна ўплывае на іх вартасьць.

**Плімут-Рокі** цёмна сівыя, колеру шуляка.*) Яйкі нясуць даволі вялікія, з цёмнай лупінай, але часта адпачываюць. Куранята растуць добра, але вельмі няхутка параста-юць пер'ем.

**Род-Айлэнды**, або як іх у нас называюць **кармазыны** маюць колер пер'я медна-чырвоны, бліскучы, асабліва ў пятухоў. Яйкі нясуць сярэдняй вялічыні, цяжкія, з цёмнай лупінай; нясьціся пры добрым доглядзе пачынаюць рана (на 7-м месяцы) і добра нясуцца зімою; амаль зусім ня квокчуць. Холаду не баяцца. Куранята растуць добра, апер'яваюцца даволі хутка. Трэба дадаць, што раса гэтая адзначаецца вялікай ласкавасьцю, што вельмі аблягчае дагляд.

Усе пералічаныя расы — цяжкія і дзеля гэтага менш робяць шкоды ў гаспадарцы, бо

*) Шуляк—птушка з роду ястрабаў і соваў.

прынамся не пералётываюць праз платы, як нашыя вясковыя куры.

І так, разгледзіўшы і абдумаўшы выгады, якія можам мець пры гадаваньні **добрых** курэй, пастараемся ўзыйсьці на адпаведны шлях ці то дарогай падбору яек ад сваіх курэй, ці прыдбаньнем яек ад курэй расовых.

Гадаваньне курэй гэта таксама ня гульня, а праца, дык стараймася, каб яна не прападала дарма, а давала якнайлепшыя рэзультаты (вынікі). Л. В.

## Падкармлівайце галодныя пчолы.

Раней чым ўсё іншае ў прыродзе, будзяцца да новага веснавога жыцьця пчолы. Ужо ў лютым матка перарывае свой зімовы спачынак і пачынае нясьці яечкі, бо мэтай жыцьця маткі ёсьць утрыманьне і павялічэньне пчалінай сям'і.

Павялічэньне пчаліных сем'яў і якнайлепшае іх разьвіцьцё павінна быць таксама найбольшым клопатам кожнага пчаляра. Значыцца пчаляр павінен запэўніць добрыя варункі жыцьця пчалінай матцы і цэлай пчалінай сям'і, а тады напэўна дасягне сваей мэты.

Аб чым павінен рупіцца пчаляр цяпер — на прадвесьні. -- Перадусім мусіць забясьпечыць свае пчолы ад голаду. Леташні год ў шмат якіх ваколіцах даў вельмі благі мёдазбор, а калі пчаляр ня змог свае пчолы падкарміць і яны пайшлі на зіму з малым запасам, то цяпер могуць асыпацца з голаду; тым больш, што якраз цяпер і матка, складаючы яечкі, патрабуе шмат спажывы і пчолы ядуць больш дзеля павялічэньня цяпла пры абаграваньні чарвы і самую чарву карміць трэба.

І вось тут пчаляр павінен даказаць сваю рупнасьць: найменш раз ў тыдзень падслухіваць пчол і галодных неадкладна падкармліваць.

Як-жа пазнаем, што пчолы ня маюць чаго есьці?

Галодныя пчолы не адразу аказваюцца, а калі пастукаем ціханька ў сьценку вульля, дык шэлясьцяць, быццам сухое лісьцё.

У цяперашні халодны час найпрактычней падкармліваць пчолаў *мядовым* цестам. Мядовае цеста прыгатаўляецца з мёду і цукровай пудры; калі трудна дастаць цукровай пудры, то трэба звычайны цукар-пясок ператаўчы ў ступе і перасеяць праз густое сіта. Далей робім так: бярэм 1 клг. добрага чыстага (ад здаровых пчол) мёду, награваем, каб зрабіўся рэдкім, сыплем у яго паволі 3 клг. цукровай пудры і месім як кожнае цеста. Мясіць трэба доўга, каб атрымаць цеста аднастайняе, цьвярдое, як на макароны. З гатовага цеста робім блін і кладзём над рамкамі на драцяной сетцы. Драцяную сетку, калі яе няма, можна замяніць марляй або ў найгоршым выпадку — вельмі рэдкім палатном. Зьверху цёпла накрываем.

Гэтакая порцыя цеста павінна хапіць пчолам аж да цёплай вясны, а тады ў меру патрэбы зможам падкармліваць рэдкім цукровым сыропам.

**Л. Войцікава.**

## Як выратаваць пчолы нядаўна апаўшыя з голаду.

Калі пчолы прапалі з голаду ня больш чым 2—3 дні таму, радзяць ратаваць іх наступным спосабам: ўнясеце вульлей ў цёплую хату, разьбярэце яго аж да гнязда і пад рамкі падсьцялеце паперу, напр. газэту. Адсуньце пару рамак, вазьмеце з сярэдняй жменьку пчол і палажэце іх на цёплае месца. Калі пасьля нейкага часу пчолы пачнуць рухацца, то гэта знак, што іх яшчэ ўдасца выратаваць. Тады рамкі з пчоламі спырскайце асьцярожна рэдкім цукровым сыропам адзін раз; можна вуснамі, толькі дробненька як імглой.

Пасьля гэтага ссуньце гняздо як было, а пчолаў, якія ўпалі на газэту, высыпце зьверху на рамкі. Налійце цёплага цукровага сыропу ў шклянку, абвяжэце палатном і, перавярнуўшы дагары дном, пастаўце зьверху на рамкі. Тады з абодвух бакоў рамак палажэце на дно вульля бутэлькі з гарачай вадой. — Вылет трэба засеткаваць. — Калі пчолы моцна загудзяць, значыцца ўсё добра. Пратрымаўшы іх праз ноч ў хаце, раніцай дайце ізноў цёплага сыропу. Калі пад раніцу пчолы зьбяруцца ў кучу, запакуйце іх як былі (падушкамі, лісьцём, саломай ці г. пад.) і вынясеце раней ў халодную хату, а тады ў садок і ў зімоўку.

**(Паводле „Украінскага Пасічника“).**

## Барацьба са шкоднікамі ў садзе.

Нават ў цяперашнія дні гаспадарчага крызысу кожны сад можа даць добры даход тады, калі плады—яблыкі, ігрушкі—будуць адпавядаць вымогам пакупца. Чаго-ж трэба, каб напрыклад, яблыкі мелі запэўнены збыт, ды прытым па добрай цане? — Трэба, каб былі смачныя і—прыгожыя на выгляд. Тымчасам, калі глянем на прывезеныя на рынак яблыкі ці грушкі, то якраз ня бачым, каб яны адпавядалі гэтым варункам; найчасьцей яны дробныя, чарвівыя ды ў плямы. Вялічыня пладоў залежыць таксама ад добрага дагляданьня, угнойваньня дрэва, ды аб гэтым ў свой час пагаворым. Сягодня разгледзім справу чыстаты і гладкасьці пладоў, а таксама іх ліку на дрэве, у залежнасьці ад шкоднікаў.

У вялікіх крамах бачым поўныя вокны надзвычайна прыгожых яблыкаў, па большай часьці з Злучаных Штатаў Паўн. Амэрыкі; нашы і раўняцца з імі ня могуць. Чаму гэта? Бо там, у Амэрыцы вядзецца пляновая і бязупынная барацьба з ворагамі садоў, рознымі шкоднымі матылямі, кузуркамі і грыбкамі заражаючымі як лісьцё, так і плады дрэваў.

Пара і нам прыступіць да гэтай барацьбы і такім чынам палепшыць гадаваныя плады, ратаваць цэласьць нашых садоў, якія, пааб'яданыя шкоднікамі, выглядаюць часта, як пасьля пажару.

Барацьбу пачынаем ужо зімой, або якнайраней вясной. Перадусім абходзім ўсе дрэвы, нават дзікія, якія растуць ў садзе, або каля саду і старанна зьбіраем з іх гнёзды матылёў і кузурак, якія скрываюцца ў сухім лісьцю, вісячым дзе-недзе на дрэвах. Пэўныя, шкодныя матылі складаюць яечкі на тоненькіх галінках дрэваў густа зьлепліваючы іх паміж сабою ў пярсьцёнак. Кожная кропка гэтакага пярсьцёнка, гэта паасобнае яечка, з якога вясной выйдзе гусьвіца, а дзеля таго, што іх разам будзе некалькі соцен, то могуць аб'есьці ўсё маладое лісьцё на дрэве.— Вось гэтыя „**пярсьцёнкі**" **мусім абіраць і паліць.**

Некаторыя шкодныя кузуркі зімуюць пад нягладкай і палопанай карой; хочучы іх зьнішчыць, трэба кару абскрабсьці тупым нажом або сярпом. Скрабаць трэба асьцярожна, каб ачысьціць дрэва ад нягладкага, адстаючага (няжывога) пласту кары, але не закрануць спodняга, белага, жаўтаватага або зялёнага пласту.

Рана вясной, калі толькі дажджы не перашкаджаюць, трэба дрэвы пабяліць вапнай. Гэткае бяленьне карысна тым, што нішчыць розны мох, які, растучы на дрэве, цягне з яго сокі. Апрача таго бяленьне забівае кузуркі і іх яйкі, каторыя знаходзяцца ў шчэлках кары. Беленыя дрэвы ня лопаюць, што часта здараецца з дрэвамі нябеленымі, калі вясной дні ўжо крыху цёплыя, а ночы марозныя: тады сокі, ажыўленыя з паўднёвага боку сонечным цяплом, пачынаюць ў дрэве рухацца, а пасьля ўночы замярзаюць і расьпіраюць кару.

Белім дрэвы пэндзлем даволі густой сумесяй гашанай вапны, гліны, каравячага гною і попелу.

Але гэтых захадаў яшчэ не даволі. Ёсьць шмат такіх шкоднікаў і грыбковых хваробаў, якіх гэтымі простымі сродкамі зьнішчыць ня здолеем. Тут прыходзяць нам на помач апырсківаньні хэмічнымі сродкамі. Ёсьць іх вельмі шмат розных фірмаў і пад рознымі назовамі, але дзеля таго, што яны вельмі дарагія, то нават пералічываць іх ня будзем. З прасьцейшых сродкаў праціў грыбковых хваробаў успомнім: „бардоскую" жыжку (рэцэпту глядзі „Самапомач» № 2 с.г., стацьця аб памідорах), якой апырсківаем дрэвы рана вясной, перад лісьцём і як дрэвы перацьвітуць. Праціў кузурак і гусьвіцаў ужываюць гэт. званую „Зелень Парыскую", якой апырсківаем дрэва, калі распусьціцца лісьцё і зьяўляюцца кветкі.

„Зелень" купляем ў аптэках. Разводзім так: 15 дэка (150 грамаў) „Зелені" на 100 літраў вады і клею з 1 кіля жытняй мукі. Перад ужываньнем трэба добра перамяшаць.

Апошнім часам людзі стараюцца замяніць гэтыя сродкі яшчэ танейшымі. І вось чытаем у фаховых часопісах, што робяцца спробы апырсківаньня дрэваў штучнымі пагноямі, напр.патасовай соляй;калі яна 25 проц. то ў стасунку $2^1/_2$ кл. на 100 літ. вады. Соль распускаецца ў цёплай вадзе і тады ўліць яе ў 100 л. вады і добра разьмяшаць. Перад ужываньнем трэба сумесь перацадзіць. Апырсківаць рана вясной і пасьля адцьвітаньня.

Украінскі інжынер. О. Яхніцкі апырсківае ў сябе сьлівы праціў вельмі шкоднай кузуркі г. зв. місачніка, каінітам, бяручы на 100 літ. вады 10—15 кл. каініту і кропіць гэтай сумесяй сьлівы два разы: у лютым і ў сакавіку.

Як бачым, людзі ўсімі сіламі стараюцца ратаваць свае сады перад рознаякімі шкоднікамі, якія зьяўляюцца прычынай малой вартасьці пладоў, а часта і заміраньня дрэваў. Дрэвы, якія будзем старанна даглядаць і апырсківаць будуць радзіць плады здаровыя, чыстыя і пры тым — у вялікім ліку, чым бязумоўна аплацяць ўсю нашу працу.

А. В.

## Нож і пілка ў руках садаўніка.

У канцы лютага і ў сакавіку, калі няма вялікіх маразоў, можна прыступіць да дрэваў у садзе з нажом і пілкай. Падчас маразоў гэтага рабіць ня можна, бо мароз можа пакалечанаму дрэву пашкодзіць.

Аглядаем дрэва за дрэвам ці няма на іх галін (вецьця) скрыжаваных. Гэткія галіны, абціраючыся адна аб адну, калечацца, дзеля чаго адну з іх, слабейшую трэба адрэзаць, каб другой не перашкаджала расьці.

Адрэзаем таксама г. зв. „ваўкі:" гэта галінкі грубыя, простыя, гладкія, з маленькімі вочкамі. Вырастаюць яны ў кутах грубых сукоў або ад пня ніжэй кароны. Карысьці ад іх няма ніякай, бо плады родзяць рэдка, а толькі адбіраюць сокі другім, нармальным галінам. Апрача таго трэба адрэзаць галіны зламаныя пад самым скалечаньнем, а галіны сухія або зьмерзлыя адкінуць зусім.

Трэба старацца, каб не адрэзываць жывых галін грубейшых чым на 2 цалі (палец).

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ.

Bielaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

Заўважым, што калі будзем дрэвы абрэзываць кожную вясну, то грубейшыя чым на 2 цалі вырасьці не пасьпеюць. — Тонкія галінкі зрэзываем нажом, — грубейшыя адпілоўваем адумысловай пілкай. Кожную няг ладкую рану трэба вострым нажом старанна выгладзіць і на другі дзень замазаць смалой або густой алейнай хварбай.

Раны зробленыя на дрэве ў той час, як яно зялёнае, г. зн. пакрытае лісьцём, замазываецца спэцыяльнай масьцяй.

Старыя але здаровыя дрэвы можна адмаладзіць гэтак: вясной скарачываюцца ўсе галіны на $^1/_3$ даўжыні, адрэзваючы кожную над вочкам або над якой маленькай галінкай, а сучкі і галінкі залішне густыя зусім адкідаюцца.

Трэба гэта рабіць асабліва тады, калі старыя дрэвы адны з другімі стыкаюцца каронамі, родзяць шмат, але дробныя плады і не даюць на канцох галіны прыросту.

Адначасна з адмаладжываньнем трэба цэлы сад добра ўгнаіць. Скажам аб гэтым наступным разам. Зараз у наступным годзе дрэвы будуць расьці лепш, а праз два гады дадуць прыгожыя плады.

А. В.

## Гаспадарчая хроніка.

— **Прымусовая арганізацыя збыту прадуктаў земляробскай вытворчасьці.** Звужэньне коопэратыўнай самадзейнасьці, праведзенае ў найнавейшай зьмене коопэратыўнага закону ў Польшчы, знайшло свой водгук у адпаведнай аснове закону ўнесенага ў польскі Сойм проўрадавым паслом Рудзінскім. Гэта аснова закону прадбачвае звужэньне ўжо ня толькі арганізаванай, але і асабістай гаспадарчай самадзейнасьці: трэба будзе — паводле гэтага праекту — ўсьцяж некага пытацца, штодзе можна выраблять і дзе і як прадаваць. — Да чаго дачакаемся яшчэ?

— **Новае „вясельле“.** Ведамы ўжо лёс польскіх арганізацыяў на нашых беларускіх землях: ня могуць ані руш з месца сваімі собскімі сіламі. Гэтакі лёс і мясцовых „Kółka'ў“. Дагэтуль Віленшчына мела сваю асобную цэнтралю гэткіх „Kółka'ў“ а Наваградчыда — асобную. А дзеля таго, што абедзьве нічога не рабілі ад таго часу, як „зарвала кароўка“, дык цяпер пастанавілі „пажаніцца“ — злучыцца. Радзілі аб гэтым кіраўнікі „Kółka'ў“ на зьездзе ў Вільні 5 г. м. — Ну, няхай лучацца. Усё-ж ашчадней будзе рабіць хаўтуры адны супольныя, чым двое асобных.







## Наша пошта.

**Т. Баўтрош** у Смаргонях: неатрыманыя Вамі нумары „Самапомачы“ высланы паўторна. Прычына неатрыманьня нумароў папярэдніх праўдападобна ў тым, што кепска быў паданы Ваш адрэс. Пішэце на будучыню адрэс выразна і поўна. Датыча гэта ўсіх.

**П. Праўка** ў Бірулічах і **Ф. Коршун** у Харосіцы: пробныя нумары „Самапомачы“ высылаем. Далей будзем пасылаць толькі тады, калі прышліцё падпіску. Папрабуйце сабраць камплет падпішчыкаў (10 чалавек).

**Я. Матэлёнак** у Кавалькох: прысланае перадана паводле адрэсоў. Два экзэмпляры № 2 „Самапомачы“ пасылаем. Спадзяёмся, што і Вы не астанецеся на шэрым канцы нашых рупных зьбіральнікаў падпіскі на камплет „Самапомачы“. У такім выпадку можам зарахаваць Вам на рахунак камплету і прысланыя ўжо 3 зл.: аставалася-б дапла ціць толькі 9 зл. Падумайце і праз Вялікдзень папрацуйце! У Вашым куце яшчэ глуха. Цешымся, што пачуем аб Вашай працы. Чакаем.

**С. Сіткевіч** у Дубне і **А. Патаповічу** Рачканах: праспэкты і прагаграмы Завочнага Курсу Коопэрацыі Вам высланы. На Курс можаце яшчэ быць прынятымі. Навука бясплатная. Аплата коштаў друку і перасылкі выносіць за цэлы Курс: 16 зл. — калі плаціць адразу і 3-гары, або 21 зл. пры аплаце ў 5-цімесячную рассрочку (5+4+4+4+4).

Інж. **А. Шаху** ў Чэхаславаччыне і **Я. Гапановічу** ў Варшаве: шчырая Вам падзяка за падмогу для нашага саматужнага выдавецтва: часопісі „Самапомач“ і Курсу коопэрацыі. Каб Ваш прыклад знашоў больш насьлядоўцаў сярод раскіданай па сьвеце беларускай інтэлігенцыі.

К-ва **„Лучнасьць“** у Жойдзішках: атрымалі і прымаем да ведама. Чаму дагэтуль нікога з сваіх людзей не запісваеце на Завочны Курс Коопэрацыі? То-ж у Вас і ўся бяда ў тым, што няма на месцы людзей, якія-б маглі ўзяцца за працу, разумеючыся ня толькі на кнігаводзтве (чужым), але і на ідэовых падставах коопэрацыі, таваразнаўстве, арганізацыі і тэхніцы прадажы і на коопэратыўным законадаўстве. Бяз гэтага ня рухнеце з месца.

— **усь з Н.**: скуль гэтулькі ў Вас пэсымізму? Ахвотна верым, што цяжка, але нідзе лёгкага нічога няма, а кіненую работу ўсё роўна трэба будзе рабіць і то ўсё ад пачатку. Дык больш веры!

**М. С.** ў В.-Л.: вельмі шкода, што Вам ня прышлося ў прадбачаным часе пабываць у Вільні. Чакаем абяцаных вестак аб Вашых коопэратыўных пляцоўках.

Коопэратывы: **„Самапомач“** у Вял.-Ліпе і **„Поўня“** — у Браносаве: за зьмешчаныя ў нас абвесткі аб упісаньні Вас у гандлёвы рэестр палічылі мы толькі па 10 зл. з грашамі. Рэшту заплачаную ў Суд на рахунак абвесткі спаганяйце ад Суду назад, ды выкарыстайце на справы агульнай карысьці, напр, выпішэце хоць па аднаму камплету (10 штук) „Самапомачы“.

К-ва **„Зорка“** ў Кожаве: Вашу абвестку зьмесьцім, але і ад Вас чакаем неадкладнай падпіскі на камплет „Самапомачы“.

УСІМ падпішчыкам на камплеты „Самапомачы“: ёсьць яшчэ нязначны лік гадавікоў „Самапомачы“ за 1932-33 год, якія — покуль хопіць запас — вышлем кожнаму камплетчыку (дзесятніку) па атрыманьні ад яго 1 залатоўкі. Скарыстайце з аказіі мець цэнны гадавік, які за пару гадоў будзе дарагой рэдкасьцю!

Для першых 10-цёх камплетчыкаў „Самапомачы“ ёсьць яшчэ ў рэдакцыі адрыўныя беларускія календары на 1934 г.: пасьпяшэце прысладь усю падпіску не пазьней 20 красавіка і тады атрымаеце календар. Інакш календары будуць прададзены з вольнай рукі.



